

# Акафіст

## за ўпакой Памершых

1985



Зыход Госпада ў падзямельле.



# АКАФІСТ ЗА ЎПАКОЙ ПАМЕРШЫХ

Кандак 1.

Недасяжным пазнаньню провідам настаўляючы да вечнага дабра, сьвет прыгатоўваючы, вызначыўшы час усім і воблік скону, даруй Госпадзі зграшэньні за век жыцьця памёршым і прыймі іх у аселі сьвятла й радаваньня, і ахіні іх міласьцю Айцоўскаю, выслухай нас, памяць ім творачых і сьпяваючых: Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў Тваіх.

Ікос 1.

Адама ўпаўшага і ўвесь род людзкі ад вечнае загібелі выбаўляючы, паслаў Ты, Дабратлівы ў сьвет Сына Твайго, каб зь Яго-ж крыжа і ўваскрасеньня зазьзяла нам жыцьцё вечнае. У надзеі на Тваё бязьмернае міласэрдзе чакаем нятленнага Ўладарства славы, просім памершым нашым даравацъ яго й молімся Табе: Госпадзі, узрадуй душы змучаных жыцьцёвымі нягодамі, каб забыліся яны пакуты й стогны зямныя, і пачуй іх на лоне Тваім, як маці чуе дзяцей сваіх, і скажы ім: адпускаюцца вам грахі вашыя. Госпадзі, прыймі іх у Тваё шчасьлівае,

ціхае прыстанішча, адчыні сьвятліцы ангелаў і сьвятых, няхай узрадуюцца яны ў Боскай славе Тваёй:

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў Тваіх.

### Кандак 2.

Зьзяньнем Усявышняга азароны, прападобны Макары пачуў голас з чэрапу паганскага: "калі вы моліцеся за пакутнікаў у пекле, тады паганам бывае ўзрадаваньне". О, дзіўная сіла малітваў хрысьціянскіх, імі-ж цемра прадонная асьвятляецца. Зь вернымі й няверныя суцяшэньне прыймаюць, калі мы за ўвесь сьвет пяем: Алілу́я.

### Ікос 2.

Успамінаюцца словы Ісака Сырыяніна: "сэрца літасьцівае да людзей і жывёлаў і да ўсяго стварэньня ўсьцяж прыносіць малітвы сьлёзныя, каб захаваліся й чыстымі сталі". Гэтак-жа й мы асьмельваемся прасіць у Госпада ўспамогі ўсім ад веку памершым, усклікаючы: Госпадзі, пашлі нам дар палымянае малітвы за памершых, Госпадзі, памяні ўсіх, якія запавядалі нам недастойным маліцца за іх, загладзь і забытыя грахі іхныя: Госпадзі, памілуй усіх без малітвы пахаваных; Госпадзі, прыймі ў аселі Твае раптоўна ў жалю ці радасьці скананых.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў Тваіх.

Кандак 3.

Мы правіннымі сталі ў няшчасьцях сьвету, у пакутах бязмоўнага стварэньня ў нядугах і пакутах неспарочаных дзяцей, грэшным упадкам людзей зруйнавана шчасьце й хараство стварэньня. О, найвялікшы зь нявінных пакутнікаў, Хрысьце Божа наш, Ты адзін уладны прабачыць усім, прабач-жа ўсім і ўсяму, вярні сьвету былое дабрадзёнства, няхай і памершыя й жывыя супакой знойдуць, усклікаючы: Алілу́я!

Ікос 3.

Сьвеце Ціхі, Выбавіцель Сусьвету, абняўшы любоўю ўвесь сьвет, вось чуецца благаньне Тваё з крыжа за ворагаў тваіх: "Ойча, даруй ім". І ў імя Твайго ўседараваньня мы адважваемся маліцца Айцу Нябеснаму за вечны супакой Тваіх і нашых ворагаў. Госпадзі, даруй тым, хто праліў кроў нявінную, заслаў скрухамі наш жыцьцёвы шлях, стварыў дабрабытнасьць на сьлёзах блізкіх сваіх. Госпадзі, ня судзі тых, якія прасьледавалі нас хлусьнёю й злобаю, адплаці міласьцю, якіх самі пакрыўдзілі ці няўмысна абразілі, і няхай стаецца сьвятою наша малітва за іх таінствам прымірэньня.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў Тваіх.

Кандак 4.

Выбаві, Госпадзі, скана괃 у цяжкіх муках,

забітых, жывымі пахаваных, засыпаных зямлёю, пахлыненых хвалямі й агнём, разарваных зьвярамі, памершых з голаду, холаду ці ад упаду з вышыні, і за муку скананьня, даруй ім радасьць вечную Тваю, каб дабрасловілі яны час пакутаў сваіх, як дзень адкупленьня, сьпяваючы: Алілу́я.

### Ікос 4.

Усіх забраных магілаю ў сьветлым юнацтве й якім выпаў на зямлі цярністы шлях пакутаў, усіх незазнаўшых шчасьця зямнога, абдары, Госпадзі, дарункам Твае бясконцае любові. Госпадзі, узнагародзь памершых пад цяжкім аблогам працы; Госпадзі, прыймі ў сьвятліцы раю ўсьнёных юнакоў і дзеваў, учыні іх годнымі весяліцца на вячэры Сына Твайго; Госпадзі, уціш боль бацькоў па страце дзяцей; Госпадзі, упакой усіх бязродных, адзінокіх — за іх-жа некаму маліцца, няхай высахнуць грахі іхныя ў праменьнях Твайго ўседараваньня!

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў тваіх.

### Кандак 5.

Як апошні сродак да ўразумленьня й пакаяньня, Ты, Госпадзі, сьмерць дараваў. Пры грозным яе бляску распранаецца ўся мітусьня зямная, заціхаюць цялесныя страсьці й пакуты, пакараецца непакорны розум, адкрываецца праўда вечная, таму закаранелыя грэшнікі й бязбожнікі на сьмяротнай пасьцелі вызнаюць быцьцё Твае вечнае й да Твайго Міласэрдзя

ўсклікаюць: Алілу́я.

### Ікос 5.

Ойча ўсякага ўцяшэньня, Ты асьвятляеш сонцам, задавальняеш плёнамі, узьвясельваеш прыгажосьцю сьвету й прыяцеляў і ворагаў Тваіх. Верым, што й за гробам нязьнікае Тваё міла сэрдзе, якое мілуе нават і тых — усімі адрынутых грэшнікаў. Мы смуткуем па зачарстве лых і беззаконных ганьбіцелях Сьвятыні: Госпадзі, няхай будзе й над імі збавенная добрая воля Твая. Зьлітуйся над імі, параненымі згубным нявер'ем і не пазнаўшым Цябе тут на зямлі, няхай пазнаюць і палюбяць Цябе ў нябёсах. Госпадзі, даруй скананым без пакаяньня, збаў загубіўшых сябе ў замараку розуму, няхай загасьне полымя іхнага беззаконьня ў моры дабратворнасьці Тваёй.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памерשых слугаў тваіх.

### Кандак 6.

Страшная цемра ў душы адда́ленай ад Бога: згрызоты сумленьня, скрыгат зубоў, незгасальны агонь і чэрваточына няўміручая. Дрыжу ад такога ўдзелу, і як за самога сябе, малюся: О, пакутнікі ў пекле, няхай зыйдзе на вас расою ахалоды наша песьня: Алілу́я.

### Ікос 6.

Зазьзяла Твая сьветласьць, Хрысьце Божа наш на аселых у цемры ў засені сьмяротнай, і не ўспамінаючых Цябе, у пекле бытуючых: зый-

шоўшы ў прадоньне зямлі выведзі ў прахалоду разлучаных з Табою грахамі, але не адрокшыхся ад Цябе; Госпадзі, дзеці Твае пакутуюць, памілуй іх; зграшылі яны на неба й прад Табою; бязьмерна цяжкія грахі іх, але і міласьць Твая бясконцая. Наведай горкае ўбоства душ аддаленных ад Цябе. Госпадзі, памілуй прасьледаваўшых праўду зь нясьведамасьці, няхай будзе ім Твая любоў не агнём, але райскаю прахалодаю.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў тваіх.

Кандак 7.

Жадаючы памершым руку помачы падаць, пакажы ім, Госпадзі, Сябе ў бачаньнях таемных, зьяўляйся жывым і на малітву давай ім натхненьне, каб успамінаючы адыйшоўшых тварылі за іх добрыя ўчынкі й подзьвігі веры, усклікаючы: Алілу́я!

Ікос 7.

Царква Хрыстова па ўсім сьвеце штодзённа ўзносіць малітвы за супачылых: усячасна па ўсёй зямлі грахі сьвету змываюцца Прачыстаю Кроўю Боскага Агнеца: ад сьмерці да жыцьця й ад зямлі да нябёс усходзяць душы памершых сілаю малітвы за іх прад алтарамі Божымі: Госпадзі, няхай будзе памершым гэтае за іх заступніцтва Царквы лесьвіцай да нябёсаў, Госпадзі, памілуй іх дзеля заступніцтва Прасьвятое Багародзіцы і ўсіх сьвятых. Прабач ім дзеля верных, дзень і ноч да Цябе ўзываючых:

Госпадзі, дзеля нявінных дзетак памілуй бацькоў іхных і слёзамі матак адкупі зграшэньні дзяцей іхных. Госпадзі, за малітвы бязьвінных пакутнікаў, за кроў мучаньнікаў пашкадуй і памілуй грэшнікаў. Госпадзі, прыймі нашыя малітвы й ахвяры, як успамін іхных дабрадзеяньняў.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў тваіх.

Кандак 8.

Увесь сьвет — сьвяшчэнная магіла, на ўсякім месцы астаткі нашых братоў і бацькоў. Адзіны нязьмерна нас палюбіўшы, Хрысьце Божа наш, даруй усім ад пачатку да сёньня памершым, няхай адгукнуцца ў бязьмернай любові песьняю: Алілу́я.

Ікос 8.

Вось дзень настане, як печ палымяная, дзень вялікі й страшны астатняга суду, выявяцца затаеньні людзкія, разгорнуцца кнігі сумленьня; пагадзецеся з Богам", — усклікае апостал Павал — "пагадзецеся перад тым страшным днём". Памажы нам, Госпадзі, сьлёзамі жывых дапоўніць недасягненае памершымі. Госпадзі, няхай будзе ім гук анельскае трубы дабравесьцем збаўленьня і ў час суду Твайго ўдастой іх радаснага памілаваньня. Госпадзі, увянчай славаю тых, якія пакутавалі за Цябе й акрый Тваею дабратою зграшэньні недамагальных. Госпадзі, ведаючы імёны ўсіх, памяні тых, якія шукалі збаўленьня ў манастве й паслушніцтве,

памяні пастыраў-сьвятароў з духоўнымі дзецьмі іх.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў Тваіх.

Кандак 9.

Дабраслоўце хутка мінаючы час, кожная часіна, кожнае імгненьне збліжае нас да вечнасьці. Новая скруха, новая сівізна — гэта весьнікі з надыходзячага сьвету, яны сьведкі тленнасьці зямное, яны апавяшчаюць, як усё праміне, як набліжаецца вечнае ўладарства, дзе няма ні сьлёзаў, ні стогнаў, але мілагучныя песьні: Алілу́я.

Ікос 9.

Як дрэва паволі пазбаўляецца лісьцяў сваіх, так і нашае жыцьцё з кожным годам хіліцца да зьбядненьня. Радасьць маладосьці вяне. Пагасае сьвяцільнік радасьці, набліжаецца непажаданая старасьць, паміраюць прыяцелі, аддаляюцца блізкія. "Дзе падзеліся вы, маладыя, радасныя, шчасьлівыя?" Нямыя іхныя магілы, але душы іх у правіцы Тваёй: — адчуваюцца іхныя позіркі зь сьвету загробнага. Госпадзі, Ты Сонца Найсьвятлейшае, асьвяці й абагрэй аселі памершых; Госпадзі, няхай праміне назаўсёды горкі час растаньня, дазволь нам радаснага спатканьня ў нябёсах. Госпадзі, учыні, каб усе былі зьяднаныя з Табою. Госпадзі, вярні адыйшоўшым дзяцінную чысьціню й маладое дабрадушша, і няхай будзе ім вечнае жыцьцё сьвятам Вялікодным.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў Тваіх.

### Кандак 10.

Ціха плачам над магіламі нашых родных, молімся з надзеяй, усклікаем ў чаканьні: "Скажы нам Госпадзі, як уславіў Ты іх?" Дай знаць пра гэта таемнае адкрыцьцё духу нашаму, каб засьпяваць: Алілу́я.

### Ікос 10.

Кіруючы вочы нашы ў прасьцяг на пройдзены шлях жыцьця, успамінаем — колькі-ж людзей памершых зь першых дзён і да сёньня — паслужылі мне на дабро. За іх, доўг любові ўздаючы, усклікаю: Госпадзі, удастой славы нябеснае бацькоў маіх і блізкіх маіх, вартуючых над маею дзіцячаю калыскаю, узгадаваўшых і выхаваўшых мяне. Госпадзі, услаў прад Анёламі дабравясьціўшых мне словы збаўленьня й навучыўшых мяне дабру й праўдзе сьвятымі прыкладамі жыцьця свайго. Госпадзі, пашлі асалоду, таемнаю маннаю, тым, якія паслужылі мне ў цяжкія дні. Усіх дабрачынцаў і дабрадзеяў узнагародзь і захавай.
Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў Тваіх.

### Кандак 11.

Сьмерць, дзе тваё джала, дзе твая былая цемра й страх? Цяпер ты стала жаданай, бо спалучаеш неразлучна з Богам. Ты стаешся вялікім супакоем, таемным сьвяткаваньнем. Апос-

тал усклікае: “Жаданьне маю памерці й з Хрыстом быць”. Дзеля таго-ж, узіраючыся на сьмерць, як на правадніцу да жыцьця вечнага, усклікаем: Алілу́я!

### Ікос 11.

Уваскроснуць памершыя і ўстануць тыя, што ў магілах, і ўзьвесяляцца жыхары зямныя, бо ўстануць целы духоўныя, ясна праслаўленыя, нятленныя. Косьці сухія, чуеце слова Гасподняе: “Апранецеся жыламі, пакрыйцеся скураю”, уставайце з даўных часоў мінуўшчыны, вы адкуплены кроўю Сына Божага, ажыўлены сьмерцю Ягонай. Над вамі сьвятло ўваскрасеньня. Госпадзі, сёньня адкрый ім усю глыбіню дасканаласьцяў Тваіх. Ты сьвяціўся ім сьвятлом сонца й месяца, няхай-жа пабачаць яны й славу асьветленых воблікаў анельскіх. Ты радаваў іх прыгожасьцю ўзыходу й захаду сьвяцілаў нябесных, няхай-жа ўбачаць яны й сьвет невячэрні Боскасьці Тваёй.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў Тваіх.

### Кандак 12.

Цела й кроў Уладарства Божага не насьледуюць, пакуль у целе жывём, адлучаныя ад Хрыста, калі-ж памрэм, ажывём для вечнасьці. Належыцца тленнаму целу нашаму адзецца ў нятленьне й амярцьвеламу яму зазьзяць бясьмерцем, каб у сьвятле невячэрняга дня засьпяваць: Алілу́я.

### Ікос 12.

Чакаем сустрэчы з Госпадам, чакаем яснае зары ўваскрасеньня ў надзеі на абуджэньне з магілаў нашых блізкіх, і ажыўленьня хараства жыцьця памершых. Радуемся з надыходзячага перамяненьня ўсяго стварэньня й Створцы нашаму ўсклікаем: Госпадзі, стварыўшы сьвет да ўздыму радасьці й дабра, узьняўшы нас да сьвятасьці з глыбіні грэху, дай памершым валодаць сярод новага бытаваньня, каб зазьзялі яны, як зоркі нябесныя ў дзень славы іх. Госпадзі, няхай будзе ім Агнец Божы сьветам невячэрнім. Госпадзі, дай і нам зь імі сьвяткаваць пасху нятленьня, зьяднай памершых і жывых у радасьці бясконцай.

Госпадзі, Любоў нявымоўная, памяні памершых слугаў тваіх.

### Кондак 13.

О, Міласэрны Ойча Божа наш, усім жадаючы збаўленьня, Сына да загінуўшах паслаў і Духам Жыцьцятворчым ахінуў! Памілуй, прабач і збаў родных і блізкіх нам, памершых (імёны іх) і ўсіх ад веку скананых, і хадайніцтвам іхным наведай і нас ды супольна зь імі прагалосім Табе, Збавіцелю Богу пераможную песьню: Алілу́я, Алілу́я, Алілу́я!

## Малітва.

Божа духаў і ўсякага цялеснага, Ты сьмерць паканаў і шатана зьнясіліў і жыцьцё сьвету твайму дараваў! Сам, Госпадзі, упакой памер-

шых слугаў Тваіх: сьвяцейшых патрыярхаў, прэасьвяшчэнных мітрапалітаў, архіяпіскапаў і япіскапаў, у сьвятарскім, царкоўным і манаскім сане Табе паслужыўшых, будаўнікоў храму гэтага, праайцоў, айцоў, братоў і сёстраў тут і ўсюды пахаваных: камандзераў і жаўнераў, змагароў за веру й бацькаўшчыну жыцьцё сваё паклаўшых, тапельнікаў, у агні пагарэлых, на марозе замерзлых, разарваных зьвярамі, без пакаяньня раптоўна скананых і ня здолеўшых зьмірыцца з Царквою й з ворагамі сваімі. Самазабойцаў і за ўсіх, якія запавядалі й прасілі нас маліцца — за іх-жа няма каму памаліцца, — і вернікаў, якія не атрымалі хрысьціянскага пахаваньня й слугаў Божых (імёны) — у месцы сьветлым, у месцы спакойным, куды не дасягаюць хваробы, смутак і стогны. Усякае зграшэньне, якое ўчынілі яны словам, ці ўчынкам, ці помыслам, як добры Чалавекалюбец Бог, прабач, бо-ж няма чалавека, які-б жывучы не зграшыў. Ты-ж толькі адзін бяз грэху, праўда Твая — праўда на векі, і слова Тваё ісьціна.

Ты, бо Ўваскрасеньне й жыцьцё, і ўпакой памершых слугаў тваіх (імя) Хрысьце Божа наш, і Табе славу ўзносім з Безпачатным Тваім Айцом, і Прасьвятым і Добрым і Жыцьцятворчым Тваім Духам, цяпер і ўсячасна й па век вякоў, Амінь.

**Малітва за Ўсіх Памершых.**

Памяні Госпадзі, у надзеі ўваскрасеньня да жыцьця вечнага памершага(ую) слугу Твайго

(аю), (імя), і даруй яму(ёй) усякае зграшэньне, сьведамае й нясьведамае, якое словам, ці ўчынкам, ці помыслам зграшыў(ла), ён(яна) і ўсялі яго(яе) ў месцы сьветлым, у месцы прахалоды, у месцы спакойным, вольным ад усякіх хваробаў, жалю й стогнаў, дзе асьвятляе сьвет аблічча Твайго, узьвесяляе ўсіх ад веку сьвятых Тваіх.

Даруй яму(ёй) і нам уладарства Тваё й успрыняцьцё нявымоўных і велічных Тваіх дабротаў і Твайго бясконцага й шчасьлівага жыцьця асалоды. Бо-ж Ты жыцьцё й уваскрасеньне й супакой памерпіых слугаў Тваіх, Хрысьце Божа наш, і Табе славу ўзносім з боспачатным Айцом і прасьвятым і добрым, і Жыцьцятворчым Тваім Духам, цяпер і ўвесь час і павек вякоў, Амінь.

## Малітва
## за Памершага Раптоўна й Неспадзявана.

Нявымоўны й недасяжны ў чынах цудоўнага й дзейнага провіду Твайго за нас, Госпадзі, і невычарпаны ў міласэрдзі Божа наш. Узглянь з вышыні сьвятога пасаду Твайго, наведай і ахіні Тваею дабратою мяне грэшнага й недастойнага слугу Твайго ў малітве да Цябе, няхай усёстваральнаю й усёўладарнаю сілаю Духа Твайго Сьвятога ўспраўніцца малітва мая прад Тваім нябесным мысьленным ахвярнікам, як кадзіла дабравоннае. Зваж на голас маленьня майго, Божа, Божа мой, і вазьмі дабрадзейны алей суцяшэньня і ўзмацненьня на слабое, журботнае й занылае сэрца маё, смуткуючае й хала-

дзеючае ад невядомага лёсу, паводле Твайго неразгаданага прызначэньня, раптоўна выхапленага ад нас сьмерцю слугі Твайго (імя). О, Найміласэрнейшы Госпадзі! Неадрынь ад абліčча Твайго, але пашкадуй стрывожаную душу, пазваную да Твайго міласьцівага й справядлівага суду ў час нечаканы. Адхіні ад яго праведную загрозу Тваю ды ня ярасьцю Тваёю зьвінаваціш яго, ані гневам Тваім укараеш яго, але памілуй паводле міласьці Тваёй, памілуй дзеля крыжовых заслугаў улюбёнага Сына Твайго, Господа Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста й дзеля малітваў Прачыстае Яго Маці і ўсіх Сьвятых. Даруй яму ўсе зграшэньні, у сьведамасьці й нясьведамасьці зьдзеяныя. Узглянь чалавекалюбным вокам Тваім на яго веру, спадзяваньне й надзею, на выбаўныя заслугі Адзінароднага Сына Твайго, і прыняўшы душу яго з матчынага лона Праваслаўнае Царквы Хрыстовае, прыймі літасьцю Тваею, Дабрадарнаю любоўю Духа Твайго Сьвятога й усялі яе ў лона Абрагамава ды супакой там. Калі-ж сьвяцільнік яе — вера, ад высыханьня алею любові й добрых учынкаў, угасьне прад сьветазарным аблічам Тваім, малю Цябе, напоўні яго алеем дабраты Твае й засьвяці, Ойча Сьветаў, духоўны яе сьвяцільнік, і гэтак усьнёны ў сьвеце Тваім убачыць сьвет і праславіць Цябе сэрцам чыстым. Не зачыні ад неапраўданага слугі твайго (імя) дзьверы палацу Твайго яснаўпрыгожанага, Госпадзі, Божа й Ойча нябёс і зямлі. Ты не жадаеш сьмерці грэшніка, але каб навярнуўся ды збаўлёны быў. Малю Цябе, па-

мілуй слугу Твайго (імя) ды даруй яму ўсе зграшэньні й грахоўны ўпадак, воляю ці нявосуляю, умысна ці няўмысна зьдзеяны, утулі, супакой і прасьвяці, цемраю абнятае сэрца яго, і напоўні вечнае Твае дабраты, бо тваім ёсьць, каб мілаваць і ратаваць нас Божа наш, і Табе Адзінаму належыцца нявымоўная чэсьць і слава на векі вякоў, Амінь.



